Год II. Травень 1933 г. № 5 (17).




# БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

## ЗЬМЕСТ:



# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul Wielka 58.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Бэларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопіс.

Альбэртын. Травень 1933 г. № 5 (17).

## Ушэсьце Гасподняе.

### ЭВАНГЕЛЬЛЕ

### паводле съв. Лукі, раз. 24, 36—53; зач. 114.

*36. Калі яны гэтае гаварылі, стаў Ісус пасярод іх і сказаў ім: мір вам! Гэта я, ня бойцеся!*

*37. Яны-ж стрывожыўшыся і спалохаўшыся, думалі, што відзяць духа.*

*38. І сказаў ім: чаго вы стрывожыліся і чаму думкі ўваходзяць у сэрцы вашыя?*

*39. Аглядайце рукі мае і ногі: гэта-ж я сам; даткнецеся і паглядзеце, бо дух цела і касьцей ня мае, што, як відзіце, я маю.*

*40. І сказаўшы гэтае, паказаў ім рукі і ногі.*

*41. Калі-ж яны ад радасьці яшчэ ня верылі і дзівіліся, сказаў ім: ці ёсьць тут у вас што есьці?*

*42. Яны падалі Яму частку печанай рыбы і мёду ў сотах,*

*43. І калі Ен зьеў перад імі, узяўшы што асталося аддаў ім.*

*44 І сказаў ім: Гэта словы, каторыя я да вас гаварыў, калі яшчэ быў з вамі: што трэба, каб выпаўнілася ўсё, што напісана аба мне ў законе Майсеевым і ў Прароках і ў Псальмах.*

*45. Тады адкрыў ім розум, каб яны разумелі Пісаньне*

*46. І сказаў ім: што гэтак напісана і гэтак трэба было, каб Хрыстос цярпеў і на трэці дзень устаў з умёршых.*

*47. І каб апавяшчалася ў імя Яго пакаяньне і адпушчэньне грахоў між усіх народаў, пачынаючы ад Ерузаліму.*

*48. Вы-ж сьведкі гэтага.*

*49. І я пасылаю Абяцаньне Айца майго для вас; вы-ж аставайцеся ў горадзе, пакуль ня будзеце адзеты сілаю з вышыні.*

*50. І вывеў іх з гораду ў Віфанію і, падняўшы рукі свае, багаславіў іх.*

*51. І сталася, калі багаславіў іх, адыйшоў ад іх і ўзьнёсься ў неба.*

*52. Яны-ж, пакланіўшыся, вярнуліся ў Ерузалім з вялікай радасьцяй.*

*53. І ўсьцяж прабывалі ў сьвятыні, славячы і хвалячы Бога.*

---

40 дзён Ісус Хрыстос па сваім Уваскрасеньні жыў на зямлі, умацоўваў апосталаў і вучняў у веры, арганізаваў царкву, даў сваім вучням апошнія свае прадасьцярогі і ў прысутнасьці вучняў узышоў да неба.

Звычайна, пры разьвітаньні з дарагою нашаму сэрцу асобаю, якісьці сум ахапляе сэрца чалавека, сэрца пачынае мацней калаціцца і сьлёзы сыплюцца з вачэй.

Таксама і апосталы былі сумнымі, што ўжо адыходзіць да свайго Айца Нябеснага ўмілаваны іх Збаўца, але гэты сум быў толькі на хвіліну, бо пераважыла пачуцьцё захопленьня і радасьці, дзеля таго што Ісус Хрыстос не разьвітваецца з імі назаўсёды, ідзе да свайго царства і прыракае прыгатаваць для ўсіх там месца.

Жыцьцё чалавека на зямлі часовае, хутка кончыцца, толькі па сьмерці пачынаецца запраўднае жыцьцё, жыцьцё вечнае. Зразумелі гэта апосталы і дзеля будучае хвалы і шчасьця цешыліся.

Дарэмна стараўся апісаць шчасьлівае бытаваньне выбранцаў у небе Сьвяты Апостал Павал. Мог у канцы толькі адно сказаць: „Чаго ня бачыла вока і ня чула вуха, і што ня ўзыходзіла ў сэрца чалавека, тое Бог прыгатаваў любячым Яго“ (І Кар. 2, 9).

Вечнае і поўнае шчасьце прыгатаваў Збаўца сьвету ня толькі для сваіх апосталаў і сваіх вучняў, якіх меў, будучы паміж людзьмі на зямлі, але і для ўсіх людзей усіх часоў, што палюбяць Яго.

Хаця Ісус Хрыстос жадае ўсіх ашчасьлівіць на цэлую вечнасьць, дзеля збаўленьня ўсіх людзей памёр на крыжы, аднак ня ўсе будуць у небе.

Ці мала паміж людзьмі знайдзецца такіх, што ня хочуць быць у небе, ім здаецца, што чалавек, як скаціна, жыве толькі да сьмерці, а са сьмерцяю ўсё канчаецца. Няма, — паводле іх бязбожнага думаньня, — ніякага жыцьця па

сьмерці, дзеля таго ня думаюць аб шчасьці вечным у небе, не жадаюць яго. Для такіх ня будзе неба.

Іншыя зноў людзі не выракаюцца Бога, хацелі-б быць назаўсёды шчасьлівымі ў небе, але ня хочуць ісьці праз жыцьцё дарогай, што вядзе да Бога, да вечнага шчасьця з Ім. Гэта вельмі неразумна — хацець дайсьці да мэты, але ня ўжываць сродкаў, што вядуць да азначанай мэты.

І перад намі стаіць пытаньне, ці не жадаем быць праз усю вечнасьць шчасьлівымі ў небе ці не? А калі маем пажаданьне быць у небе, дык трэба нам пазнаць дарогу, якую людзям Ісус Хрыстос паказаў і ёю. Добры Ісус Хрыстос ня толькі нас адкупіў, — даў нам магчымасьць быць шчасьлівымі, але таксама праз свой прыклад паказвае нам шлях, што вядзе да неба, вучыць нас, як маем ісьці за Ім: *„Калі хто хоча ісьці за Мною, няхай адрачэцца ад самога сябе, няхай вазьме крыж свой і ідзе за Мною"* (Лук. 9, 23).

Першы варунак ісьці за Хрыстом, гэта зрачыся самога сябе. Зракацца самога сябе, гэта значыць зрачыся свае волі, сваіх пажаданьняў, свайго самалюбства і свае асабістае выгады.

Калі чалавек асвабадзіўся ад цяжару свайго самалюбства, тады мусіць узяць на сябе крыж, розныя цярпеньні. Ведаем, як Ісус Хрыстос дайшоў да славы і да панаваньня ў вечным царстве — праз цярпеньні і сьмерць на крыжы. Такою-ж, а ня іншаю дарогаю крыжа вёў на неба сваіх найдаражэйшых асоб, як напрыклад Найсьвяцейшую Дзеву Марыю і апосталаў. Так сама і для нас няма іншае дарогі, што вядзе да неба: *„Праз шмат мукаў трэба нам увайсьці ў нябеснае царства"* (Д. Ап. 14, 22).

Праўда, вельмі цяжка падчас бывае нясьці крыж, надта вялікія пасылае Бог цярпеньні, але і найбольшыя труднасьці і цярпеньні хутка мінаюць, а хрысьціяніна, што адважна прыймае крыж і вытрывала нясе за Хрыстом, чакае пасьля нагарода вечная. Усе цярпеньні жыцьця часовага ня можна прыраўняць да вялікае славы ў будучым жыцьці. „Калі-ж мы пацярпелі з Хрыстом, дык верым, што жыць будзем з ім разам (Рым. 6, 8).

Сьвятая Кацярына з Сены, што памярла ў 1380 годзе, у сваім жыцьці мела часта цудоўныя відзеньні. Аднаго разу паказаўся ёй Хрыстос, трымаючы 2 кароны, залатую і цярнёвую і сказаў: „Выбяры сабе адну з іх. Аднак-жа ведай, што калі ў гэтым жыцьці будзеш насіць залатую, то ў будучым жыцьці чакае цябе цярнёвая. А калі захочаш насіць цярнёвую, то ў будучым жыцьці атрымаеш залатую". Пасьля гэтых слоў Сьвятая Кацярына папрасіла цярнёвую карону.

Хто тутака на зямлі жыве без вялікай працы і пазваляе сабе толькі роскашы ў жыцьці, той ня ўстрымаецца ад абразы Божай і будзе плакаць у будучым жыцьці.

Тыя-ж зноў, што жывуць пахрысьціянску, ня бачаць

лепшае долі ў жыцьці, гора і сьлёзы заўсёды ім таварышкі ў жыцьці, хай маюць надзею, што скончыцца мука крыжам, пастаўленым на магіле, і калі хто верна служыў Госпаду Богу, дык можа спадзявацца ад Яго нагароды.

Бедны абяздолены, браце хрысьціяніне, Госпад Бог можа не залатую, але цярнёвую ўлажыў на цябе, як і на многіх тваіх братоў, карону. Ня трэба лічыць гэта за няшчасьце, але за асаблівую любоў Бога да цябе і да нашага народу. Даючы табе, дарагі браце, цярнёвую карону ў гэтым жыцьці, прыгатаваў адначасна табе залатую ў будучым: *„Бо Госпад каго любіць, таго карае ды б'е ўсякага сына, якога прыймае“* (Жыд. 12, 6).

Як Ісус Хрыстос праз муку і цярпеньні ўвайшоў да славы вечнае, так сама і мы ня йначай можам увайсьці да вечнага шчасьця ў небе. Амін.

*а. Антоні.*

# Сьв. пам. Архіяпіскап Пётра Манькоўскі.

Вельмі часта сьмерць прыходзіць неспадзявана, чалавек ня ведае, дзе і калі памрэ. 8 красавіка вяртаўся з паховін у Перамышлі сьв. пам. Япіскапа Новака Я. Пр. Архіяпіскап Пётра Манькоўскі і памёр у цягніку.

Паховіны Архіяпіскапа адбыліся ў Луцку 11 красавіка с. г., зьехалася 7 япіскапаў і шмат духавенства.

Сьв. памяці Архіяпіскап Пётра радзіўся у 1866 г. Ад 1918 году быў епархіяльным япіскапам у Камянцы, але нядоўга мог асабіста кіраваць сваёй епархіяй па прычыне бальшавіцкага наезду. Апынуўшыся за межамі свае епархіі, ня маючы магчымасьці кіраваць ёю, у 1926 годзе прасіў асвабадзіць яго ад епархіі. Просьба яго была выслухана і, у знак прызнаньня яго заслугаў, Сусьветны Архірэй даў яму дастойнасьць тытулярнага Архіяпіскапа.

Сьв. пам. Архіяпіскап Пётра быў чалавекам запраўды вялікім. Многа пісаў, асабліва аб аскетыцы, унутраным выпрабленьні. Да апошніх часоў, будучы Архіяпіскапам займаўся духоўным гадаваньнем хлопцаў у Уладзіміры - Валынскім.

Добра разумеў справу уніі і вельмі добрыя напісаў аб гэтай справе артыкулы, асабліва заслугоўвае на ўвагу яго артыкул у № 1 двухмесячніка „Oriens.“ Працаўнікі над злучэньнем хрысьціян з вялікім жалем даведаліся аб ягонай сьмерці, бо сьв. пам. Архіяпіскап Пётра быў запраўдным прыяцелем унійнае працы і многа зрабіў для абароны яе ад несправядлівых напасьцяў.

Вечная памяць яго сьветлай душы!

# Зайграйце жалобныя звоны...

*(Пасьвячаю вечнай памяцi Усячэсьнейшаму Айцу Пратаiгумену Усходняй Мiсii ў Альбэртыне, а свайму асабiстаму дабрадзею i настаўнiку УЛАДЗIМIРУ ПIОНТКЕВIЧУ).*

Зайграйце жалобныя звоны
I сумную вестку нясеце,
Памёр наш Айцец улюблёны,
Дзяцей да малiтвы завеце!

Памёр наш Айцец улюблёны
Праўдзiвы сын верны Iсусаў,
Якi Богу век пасьвячоны
Аддаў для дабра Беларусаў.

Якi Богу век пасьвячоны,
Ў Таварыстве Божага Сына,
Прыехаў у нашы староны,
Да слаўнага ўжо Альбэртына.

Прыехаў у нашы староны,
Пакiнуўшы край свой i мову,
Каб тут ратаваць мiлiёны
I даць iм духоўну абнову,

Каб тут ратаваць мiлiёны
Душ бедных зямлiцы Крывiцкай;
Iзноў каб вярнуць iх на лона
Адзiнай Царквы Каталiцкай.

Iзноў каб вярнуць iх на лона
Бацькоў iхных, Унii слаўнай
I Белая Русь каб нанова
Запраўды была праваслаўнай.

I доўгiя леты ахвярна
Для гэтай iдэi трудзiўся,
А праца была вялiзарна,
Якой ён для нас пасьвяцiўся.

Ён першы пачаў будаваці
Фундамэнт унiйнай будовы,
Кабы для адлучаных брацьцяў
Ратунак скарэй быў гатовы.

Гласiў Ён то Божае слова,
То слова любовi i згоды,
Хацеў бо, каб мiласьць Хрыстова
Злучыла Славянскi народы.

Ён мусіў зламаць перашкоды
Паўстаўшыя строгім навалам,
Паміма усей нявыгоды,
Быў верны сваім ідэалам.

Хоць бура пякельная выла
І гром грукатаў ненавісьці,
Імкнулась варожая сіла
Збурыць Яго працы карысьці.

А Ён-жа із сэрцам ахвочым,
Як рыцар на полі змаганьня,
Зваў голасам сільным, прарочым
Народ наш да Праўды пазнаньня.

Любоўю вялікай праняты,
Народ наш Ён клікаў да Бога,
Стараўся, каб вораг пракляты
Ня зьвёў з Беларусаў нікога.

Памёр Ты, душу аддаў Богу,
Ня скончыў пачатага дзела.
Аднак паказаў нам дарогу
Якою ісьці трэба сьмела!

А верым мы, Ойча Каханы,
Што Дух Твой вялікі у небе
Зьдзяйсьніць праз другіх Твае пляны,
Паможаць у кожнай патрэбе!

І дасьць Бог, народ Беларускі,
Якому гласіў Ты збаўленьне,
Навернецца дружна да Праўды,
І хутка прыдзе да Злучэньня!..

Дык грайце-ж, жалобныя звоны,
І сумную вестку нясеце —
Памёр наш Айцец улюблёны,
Дзяцей да малітвы завеце!

Памёр наш Айцец улюблёны,
Праўдзівы сын верны Ісусаў,
Які Богу век пасьвячоны
Аддаў для дабра Беларусаў.

*Бр. УЛАДЗІМІР БЕРНЯКОВІЧ*
*новік А.А. Студытаў у Уневе.*

3 красавіка 1933 г.



Г. Кастэльнік.

# Вялікія людзі.

*(З біблійнага музэю апавяданьні).*

## Самсонава каханьне.

Калі Самсон, пастрах для Філістынаў, пераходзіў цераз юдэйскія палі да сваей любкі — Філістынкі Далілі, — ці то было зраньня, ці ўвечары, юдэйскія дзяўчаты, што зраньня ішлі ў поле, або вярталіся адтуль вечарам, сьпявалі яму:

«Ці мала табе, Самсоне, дзяўчат юдэйскіх?
Ці мала раскошнага цьвету ў Юды?
Чаму-ж спадабаў ты Філістынку:
Крывадушную дачку ворагаў Юды?
Ой, здрада, здрада ў сэрцы Філістынкі!
Прападзе марна збаўца Юды!»

Звычайная дзявочая завісьць гаварыла ў юдэйскіх дзяўчат. Разумеў гэта Самсон, і — бывала — аглянуўся на іх з усьмешкай ды йшоў далей сваей дарогай. Нічога благога юдэйскім дзяўчатам ён ня думаў.

Іх завісьць яшчэ больш раздзьмухвала ў яго любоў да Філістынкі, як быстры вецер раздзьмухвае агонь у чыстым полі. І ня толькі гэта! Самсон любіў юдэйскія дзяўчаты, бо-ж яны былі яму родныя, аднэй крыві. Любіў іх, але, як бацька свае дзеці, дый дзеля таго дараваў ён маладым юдэйкам іх дробныя промахі, як бацька дзецям. Што сваё, то сваё, а ня чужое!

Але кахаць іх, як кахаецца любку, то ўжо не! Нішто не цягнула яго да юдэйскіх дзяўчат. Што-ж зрабіць? Ня пан чалавек над сваім сэрцам — хіба налаўчыцца ў гэнай штуцы. Але Самсон ніяк ня мог у гэтым налаўчыцца. Як ударыць — ну, дык трашчала ўсё пад яго жалезнай рукой. А з тых пор, як стаў пераможцам Філістынаў і судзьдзёй у Ізраілі, пачуваў сябе „панам,“ вышэйшым за ўсіх, і рабіў, што яму было люба.

Філістынкі манілі яго сэрца—то-ж ён і кахаў іх: сьмела, яўна, не зважаючы ні на што. Усё, што працівілася яго каханьню, умеў ён зламаць, раздушыць, моў трасьціну ў пальцах. Часам рабіла яму дакоры яго ўласнае сумленьне: „Як то, чаму ты, пераможца Філістынаў, кідаеш сваё сэрца пад ногі Філістынкам?...“ Тады Самсон быў люты на голас свае ўласнае душы (гэта было для яго найбольш няпрыемна) і так сабе адказваў:

— Ці-ж я дурны, ці што? Ня я Філістынкам, але Філістынкі мне служаць, як і належыць для пераможцы Філістынаў! Усё-ж такі дакучлівы неспакойны голас тым не ўціхамірваўся назаўсёды ў ягонай душы. Але Самсон, вечны барацьбіт, паборваў яго кожны раз, і ўсьцяшаўся тым, што мае нагоду паборваць сваіх праціўнікаў, хоць-бы яны былі на‘т і ў ягонай душы.

Ведаў Самсон ласкі таксама і Юдэйскіх дзяўчат. Ды калі ў сэрцы пароўніваў Юдэйку з Філістынкай, то Юдэйка неяк зьнікала з-прад яго вачэй — траціла ўсе свае краскі, на‘т і цэлае жыцьцё (як трацяць для нас цану ўсе рэчы, да каторых мы ўжо прывыклі); а Філістынка запаўняла ўсю яго ўяву. Юдэйка была для Самсона тым, чым будні дзень у тыдні, а Філістынка моў шабас у тыдні. Бо і як-жаж, дзе-ж Юдэйка была? Што яна ўмее? Якая яе ўдача? Як яна гаворыць, як яна ходзіць? Як кахае, як песьціць? Няма пра што і гаварыць! Вырасла Юдэйка пад шатром, перасякла дымам ды авечым пахам — а багацтва зямлі і жыцьця знае хіба столькі, сколькі хатні верабей, — можа раз у жыцьці напілася вады з Ёрдану, гутарыць толькі пра авечкі ды пра ячмень, а ходзіць так, як на ветры гойдаецца дубовая, гураватая і пакручаная галіна... От, сабе — дзеўка!

Ня тое Філістынка! Надыханая ветрам бязьмежнага мора, лучыць у сабе ўсе канцы сьвету, узгадована ў каменнай палаце, бывалая, далікатная, «вышэйшая», як яна ходзіць! як гаворыць! як песьціць — адна за дзесяць іх! Кожны раз новая, сьвежая, за адно багатая жыцьцём і чарам жыцьця.

Калі так Самсон пароўніваў Юдэйку з Філістынкай, то сэрца яго рвалася да Філістынкі. Філістынка — здабытак; Юдэйка — ўтрата! Такі быў высьлед разумаваньня безразумнага Самсонавага сэрца.

Ўжо з малодшых гадоў, як толькі дарос да жанімства, Самсон спадабаў сабе Філістынку з Тамнаты і прасіў свайго бацькі:

— Вазьмі мне яе за жонку!—Хоць гісторыя скончылася нешчасьліва для Самсона (ўжо тая першая Філістынка здрадзіла яго), ягонае сэрца і далей ліпла да Філістынак.

То заходзіў да нейкай павейніцы ў Газе, то да іншых Філістынак (пра якія летапіс і не ўспамінае). Аж урэшце раскахаўся ў Даліле, што жыла ў даліне Сорэк, між буйнымі пшаніцамі, між аліўнымі цяністымі садамі ды вінаградніками.

Палюбіў Самсон Далілю і прыходзіў да яе на завісьць юдэйскім дзяўчатам і на злосьць Філістынкам. Прыходзіў сьмела і не зважаючы ні на што.

Часамі—быццам камар у траве—так слабенька і туж-

ліва перасьцерагала яго сумленьне: здрадзіла цябе першая Філістынка, здрадзіла і другая... здрадзіць таксама і Даліля! .

Тады Самсон тупнуў нагой аб зямлю, аж яна ўгіналася моў топкае балота; а як быў тады які камень ля ягоных ног, то Самсон са злосьці так яго шпургануў, што аж ў пыл ён рассыпаўся.

— Ну, дык што-ж, што здрадзіла мяне першая і другая Філістынка? Выйшла гэта ім на зло, а ня мне! За першым разам забіў я трыццацёх Філістынаў у Аскальёне, спаліў філістынскія пшаніцы, аліўныя сады і нарэшце забіў тысячу Філістынаў асьлячаю чэлюсьцю. За другім разам вырваў я гарадзкую жалезную браму ў Газе і занёс яе на плячох на верх гары...

Што мне Філістыны! Як будзе трэба, то паб'ю іх дзесяць тысяч гэнай во' дубінкай...

І прыскочыў да дубка ды ў міг вырваў яго з карэньнямі; пааблomліваў яго ды махануў ім, бы тоненькай трасьцінкай, хоць іншы чалавек, хай-бы і сілач, таго і не падняў-бы. Такі быў сільны Самсон — так яму Бог даў.

— Але... Даліля ня здрадзіць! Мая Даліля мяне ня здрадзіць! Гэта немагчыма! Яна не з такіх! — далей абтрасаўся Самсон ад дакораў сумленьня.

— А зноў-жа: я сябе ня здраджу — хоць-бы і дарагой Даліле!

Вось гэта галоўнае і пэўна! А ўсякія іншыя здрады скончацца сьмерцю сотак або тысячаў Філістынаў...

Пэўны свае сілы Самсон, ідучы цераз філістынскія палі, падсьпёўваў сабе:

Ідзе Самсон да Філістынаў у госьці —
А Філістыны ў мышыную нару!
Гэй!
Самсон у Юды толькі абаронца —
А ў Філістынаў цар-валадар!
Гэй!

І як толькі згледзелі яго Філістыны, занятыя працай у полі, або хоць-бы толькі здалёк пачулі яго песьню, то падалі ў пшаніцу, лажыліся ў вінаградную баразну, або хаваліся за аліўку ці за камень, каб іх не заўважыў „той страшны Самсон.“

Такі быў страшны волат Самсон, бо так ужо яму Бог даў.

Сем кудраў яго буйнага воласа і буйная разложыстая барада, з роду - веку ня ткнуты брытваю, пявявалі ў паветры, расьсякалі паветранае мора, моў на караблі вятруга, ды яшчэ і самі падымалі вецер. У той час Самсон чуў, як у ім будзіцца сіла, аднекуль у яго ўходзіць і цэлага яго

ператварае ў жалеза, у гібкую медзь. То ня дзеецца так у кожнага чалавека, але Самсону так Бог даў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ужо здалёк, з вежы свайго дому ў даліне Сорэк Даліля павявала белаю хусьцінаю, на прывет Самсону, што прыходзіў у ўмоўленую пару. А Самсон, як толькі той знак убачыў, з любашчаў аж дзяцінеў.

— От, бачыш што такое Філістынка! Юдэйка ніколі ня прышла-б на тую думку! — ад'зывалася сэрца ў Самсона. (Хоць папраўдзе тое самае і так сама рабілі і юдэйскія дзяўчаты сваім каханкам. Толькі што Самсон гэтага не заўважыў).

— Даліля, мая Даліленька! — шаптала сэрца ў Самсона. Якая ты прыгожая, якая прынадная! Самая краса! Самае жыцьцё ды маладасьць! Яснабровая — не, не яснабровая, а яснабрунатная, з сінімі мягкімі вачыма, румяная, як яблычка, аксамістая, бы лісьцейкі аксамітнае рожы! Калі ўсьмяхнецца з любашчаў ды пахітне галованькай — то ў самае сэрца пранікае ўсячысьценька з галоўкай, яснымі вачыма з агністымі губкамі... І п'ець з сэрца, п'ець цёплую кроў сваімі агністымі вуснамі... А яе слова — ах! гэта ня слова юдэйскіх дзяўчат! — Гэта мёд, сьвежы, пасечны, што цэдзіцца праз горла і салодкі ліпне да паднябеньня...

Кожны раз тыя самыя салодкія ўражаньні перажываў Самсон, калі збліжаўся да свае любкі — Далілі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пясьціла Даліля Самсона так сардэчна, так шчыра, а адначасна так раскошна змаўлялася з філістынскімі князямі: якбы гэта Самсона са сьвету зьвясьці. — Праўда, не яна гэта пачала, сьпярша ўздрыгалася, калі філістынскія князі падмаўлялі яе. Але пасьля Даліля тое толькі і думала: каб Самсона як са сьвету зьвясьці, хвацкім подступам (чалавек, бач, да ўсяго — таксама і да найгоршага — з часам прывыкне).

Не хацела яна сама нажом ці атрутаю забіваць Самсона — барані Божа! Не!

— Так нізка я яшчэ ня згідзела! На гэта я нізашто не магла-б адважыцца! Гэта было-б для мяне страшным! — казала Даліля філістынскім князём.

— Але-ж мы ад цябе таго і не дамагаемся! Ты толькі... толькі даведайся ад праклятага Самсона, ў чым яго сіла, а мы ўжо самі дамо сабе з ім раду, — адказвалі Далілe філістынскія князі.

Ды бесьперастанку ўталкоўвалі ёй:

— Памятай нашае слова! Як ты не паслухаеш нас, то спалім дом твайго бацькі, а цябе заб'ём. Самсона няма пры табе штодзень, дык гэна лёгка магчымем зрабіць. А што будзе пасьля, то будзе.. Філістыны храбры народ: не пабаяцца ўміраць за свабоду... Але табе пэўная сьмерць з нашых рук!

А калі паслухаеш нас і ўдасца табе, дык ад кожнага з нас дастанеш па тысячы сто срэбнікаў. Хвацкая гэта нагр止ада (не забывай, што бацька ў даўгох!) — дый яна ня ганьбіць славы, якой абдарыць цябе твой народ. Ты, ты, Даліля, вызваліш твой слаўны народ, каторы паніжэньні зносіць ад аднаго гайдамака — праклятага Самсона. Змыеш з сябе ганьбу палюбоўніцы мучыцеля твайго ўласнага народу. Зажыве тады цэлы народ твой спакойна і слаўна— твой бацька, твае браты родныя і мы ўсе і ты, ты, катораяя цяпер дзень-у-дзень жывеш у зубах сьмерці і ганьбы... Вось глядзі: мы маглі-б зараз у гэным мамэнце зрабіць табе канец, але пакуль што ня хочам. Даём табе загад, каб ты ляпей павяла справу, ляпей для цябе і для нас. А ў тым дзеле і мы будзем табе на ўслугах... Помні!

Так падмаўлялі філістынскія князі Далілю, тады, як ня было пры ёй Самсона, тады-ж акуратна, як ён апанаваны думкамі, умаўляў сабе: — Не! мая Даліля мяне ня здрадзіць! Яна ня з тых!...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І ня вытрымала Даліля. Струны любові да Самсона пачалі ў яе сэрцы то рвацца, то аслабляцца; а струны нацыянальнае гордасьці і „добрае справы“ ўсё сільней сталі нацягвацца, і—чым-небудзь толькі закранутыя —зьвінелі і зьвінелі так сільна, так прынадна, што Даліля толькі іх і слухала, апроч іх нічога ня чула.

І падсябрылася Даліля да Самсона рознымі подступамі так, як гэта можа рабіць толькі жанчына.

— Ах, мой любы! Мой даражэнькі! Які ты для мяне нядобры, які ты няшчыры!... Не! не! Ты мяне ня любіш! Ты мяне толькі зводзіш!... А за што? За што я такая шчырая перад табою! За што столькі цярплю праз цябе! За што цэлае жыцьцё табе аддала?... Няўжо-ж ты ня ведаеш, што праз цябе зношу няславу, гнеў і пракляцьце цэлага народу майго? Ці раз грзіў ты мне: чаго к' табе прыходзілі філістынскія князі! — А што я табе адказала? на што заклінаЛася? — Прыходзілі да мяне — нашто маю скрываць перад табой. Ты павінен гэта ведаць! Прыходзілі ка мне і гразілі: што спаляць дом майго бацькі (як спалілі твайго няшчаснага цесьця ў Тамнаце), а мяне заб'юць, калі ты прыходзіцімеш да мяне, а я не адракуся цябе... А ці ты на тое зважаеш? Ці ты дбаеш пра мяне? Ты хіба дбаеш толькі, каб мне мукаў пабольшыць, мне няшчаснай! Ты мне грозіш, каб да мяне Філістыны ня прыходзілі, а яны грозяць, каб ты не хадзіў да мяне... Ах, ня вытрымаю ў гэным пекле з абодвых бакоў! Здурэю з тае няпэўнасьці жыцьця, з гэтых мукаў...

— Далілька! чаго ты ад мяне хочаш? Што табе та-

кое?—мармытаў панура Самсон і стаяў, бы мядзьведзь, катораму зьбіралася на плач.

— Што мне такое? Ты нібыто ня ведаеш? Быццам першы раз ты гэта ад мяне чуў! Годзі прыкідвацца!.. Вось які ты! Ці буду табе гэна дзень-у-дзень паўтараць? Сам вельмі добра ўсё ведаеш, што я датуль бясьпечная, дакуль філістыны цябе баяцца. А філістыны датуль цябе баяцімуцца, дакуль будзе з табою твая нечалавечая сіла. Але як ты яе ўтраціш — тады мая сьмерць пэўная.

Ты дзівішся, што я вельмі турбуюся пра тваю нечалавечую сілу, як доўга яна трываціме? У чым яна? Як яе сьцерагчы?...

Ах мой любы, я хацела-б вечна адмалоджваць тваю магутную таемную сілу, як сваё ўласнае жыцьцё! Каб я ведала, з чаго яна бярэцца, з якога жорала, то і таго жорала пільнавала-б, як свайго ўласнага вока!...

Бач, твая тайна, то разам і мая, а ты ня хочаш мне яе выявіць! Няўжо-ж ты хочаш мае сьмерці? Ах, які ты няўдзячны! Якое цьвёрдае ў цябе сэрца!..

Нарэшце Даліля стала спазматычна плакаць, як гэта звычайна робяць жанчыны ў такіх прыгодах.

А Самсон стаяў, моў на судзе. Ня ведаў, бедны, што з сабою пачаць. Было яму ніякава ў душы, ды так ён і выглядаў: бы вол, катораму ўсе чатыры нагі зьвязалі...

Так што, каб філістынскія князі бачылі яго ў такой пазыцыі, з пэўнасьцю накінуліся-б на яго, бо думалі-б, што сіла яго ўжо зьнікла назаўсёды. Але, на сваё шчасьце ды на гібель Самсонаву, яны ў той час сядзелі ў Далілінай каморы, і нецярпліва чакалі на высьлед Далілінай штукі..

Давяраў Самсон сваёй Далілe (яму, бач, і ў галаў ня прышло, што філістынскія баяры сядзелі ў каморы), ўзрушала яго й журба яе. Ды ўсё такі ня важыўся ён адкрыць ёй свае тайны — нейкі інстынкт перасьцерагаў яго. Калі от, так толькі для перадуманьня справы, — паставіў сабе пытаньне: ці не сказаць-бы Далілe праўды, — дык яго сэрца раптам замыкалася быццам жалезнаю брамай: не! ды не! Для Самсона-ж, ясным было: дакуль яго тайна ёсьць тайнай, датуль яго жыцьцё з усіх бакоў бясьпечнае, а як здрадзіць тайну, дык або жыцьцё, або гібель... Вось-жа няшчаснае „або"! — думаў сабе Самсон; а ад яго ніяк ня можна адвязацца! Бо, або Даліля недзе неяк выгаварыцца, альбо нават здрадзіць мяне (гэта аднак немагчыма!), або —ну, от мур скажа людзям...

А што Даліля марочыць голаў пра пільнаваньне мае сілы — то бабскія дурасьці! Яна-ж мне тут не патрэбна!—

Аднак над усімі думкамі і прачуваньнямі ў такіх прыгодах у душы Самсона брала верх дзіцячая дабрата да Далілі. Хацеў Самсон успакоіць сваю зажураную любку —

ўсё іншае было для яго неактуальным. І— бывала — прытуліцца да Далілі, прыгалубіцца, як толькі можа, ды гладзіць яе, бы котачку. А яна раптам кінецца яму на шыю і любымі вачыма дапытліва ўглядаецца яму ў вочы ды просіць: Скажы, любенькі, скажы! Ты-ж мяне кахаеш!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ох, бяда была Самсону з Даліляю. Ня ведаў ён, што яго чмуціць; дый ён яе сьведама дурыў (як забаўляюцца дзеці, каб даць супакой нясьведамым рэчам). Дурыў яе, бо ня ведаў іншае рады. І так аддаляў ад сябе вастрыё тае нямілае справы.

Сьпярша гаварыў Даліле: я ня маю ніякае тайны! Я сам ня ведаю, з чаго бярэцца мая сіла. А ці ты ведаеш — от, прыкладам: з чаго ты такая красуня, а іншыя дзяўчаты не такія? — Ды сьмяяўся Самсон.

Але Даліля не далася зьбіць з дарогі:

— А, пэўна! Ня маеш тайны! А віна ня п'еш, гарэлачкі і панюхаць ня хочаш! На'т вінаграду ў рот ня возьмеш— ні жывога, ні сушанага... А я няраз так хацела-б з табой павесяліцца віном, або гарэліцай. Дык мусі табе таго ня можна?

А валасы носіш доўгія, як калісь вашыя патрыярхі: Абрагам, Ісаак — ці як яны там называюцца. Кажаш, што яно табе так да твару — каб цябе людзі яшчэ больш баяліся... Я ў гэта ня веру! Тут нейкая тайна!

Так, так, мой дарагенькі! ты маеш тайну, дый не адну — але можа й больш!

Пасьля гэтага весялейшага ўступу, Даліля зноў закранула тужлівую струну:

— Ах! мой любенькі! Патоля мая ты, надзея! Ці то раз я бядую над тым: што я зусім нясьведама, нехаця праз неасьцярогу магу цябе пазбавіць твае сілы, а сябе самую жыцьця?! Бо, падумай толькі! Магу табе калі-небудзь з няасьцярогі каторы спаліць... або не дапільную ў кухні якое стравы, ў каторую ўкінуць штосьь з вінаграду або і самога віна ўвальюць, ды табе дам тое зьесьці... Дый як гэта заб'е ў табе тваю сілу, — што тады будзе? Што?... Ці ты яшчэ не пераканаўся, што я павінна знаць тваю сілу таемную дзеля тайго і майго дабра?

Толькі я сама — ты і я, больш ніхто!... Баішся, што я магу здрадзіць? За каго-ж ты мяне маеш? Ці я ад сяньняшняга дня толькі цябе люблю? Ці ты хоць сьлед няшчырасьці ўва мне дагледзіў? А хочаш, — дык прысягаю табе перад нашым вялікім Дагонам, а хоць-бы й вашым Ягвэ! На ўвесь сьвет заклінаюся, на ўсё, што хочаш: што ня здраджу тайны! Няўжо-ж я хацела-б сама на сябе сьмерці?... Але-ж зьмілуйся! Адкрый мне ўжо раз сваю загадку! Дакуль ты мяне мучыцімеш?...

Самсон аж потам абліўся. Даліля так сьлепа дакранала жылку яго тайны... Трэ' было адвярнуць яе ўвагу ад гэтага небясьпечнага моманту...Дык рознымі адмоўкамі дурыў яе, каб толькі адчапіцца.

— Бачыш, дарагая, ня так яно ёсьць, як ты думаеш! Цяпер табе праўду скажу. Гэта праўда: маю тайну. Але я аб ёй і сам толькі прыпадкам даведаўся. Каб мяне зьвязалі сёма сырымі вужаўкамі, каторыя яшчэ ня ўсохлі, то я быўбы, як кожны іншы чалавек. . Вось і ўся мая тайна! Але, крый Божа! Пра гэта нікому не кажы ані славечка!

—Як-жа гэта можа быць праўдай, калі ты—помніш: там у Леха, грубыя мядзяныя ланцугі папарываў, як нітку?! — зьдзіўлёна закінула яму Даліля.

— Пэўна, што так! Ланцугі іншая рэч, а сырыя вужаўкі — іншая.

— Ах, бачыш які ты! і нашто-ж было мяне так доўга мучыць? Цяпер я ўжо спакойная і бясклопатная.

І пацалавала Даліля Самсона, нібыто з удзячнасьці.

Ды яшчэ таго-ж дня данясла пра ўсё філістынскім баярам, а яны таго-ж дня даставілі ёй, чаго трэбавала.

І як толькі ўвечары Самсон заснуў цьвёрдым сном, Даліля зьвязала яго сёма сырамятнымі вяроўкамі ды ўскрыкнула: Самсон, Самсон! Філістыны тут!

Двойчы Даліля так крычала, а Самсон, калі схапіўся—парваліся вужаўкі, бы павучыньне.

— Ха-ха-ха! — захадзілася Даліля ад сьмеху.

— Гэта я цябе так толькі выпрабоўвала! Але-ж ты мяне лоўка зманаў! О, ты вельмі шчыры! Ты мяне любіш ня ўрокам!... Ды зараз-жа пачала плакаць, каб разьвеяць, бач, падазрэньні ў Самсона:

— Бач, які ты! Нібыто мяне любіш, а так жартуеш з мяне няшчаснае!

---

Міналі месяцы, а Даліля ад свайго не адступала: скажы ды скажы!

Самсон дурыў яе новымі выдумкамі. То сказаў зьвязаць сябе новымі вяроўкамі, каторымі яшчэ нічагусенька ня вязана; то зноў забіць цьвяком да ткацкага навоя сем ягоных кудраў. Ды нічога ўсё гэта не памагала: як толькі Даліля ўскрыкнула: Самсон, Філістыны тут! — дык Самсон рваў вяроўкі, ткацкі вал вырываў разам з асноваю, а Філістыны ўцякалі ў перапалосе.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

(Канец будзе). Пераклаў *Надбужны.*



# Наш адказ.

Шмат пісалася аб сьвяшчэньніку А. Дэйбнэру. Многа чаго гэтаму сьвяшчэньніку прыпісвалі зусім беспадстаўна. Аўторытатыўна выясьнена, што ён ня быў ані сэкрэтаром Япіскапа Д'Эрбіны, ані належаў да супрацоўнікаў камісі „Pro Russia," — ня толькі ніякіх важных дакумэнтаў камісіі ня вывез, але нават і ўзяць ня мог, — ня быў ён ніколі ані агентам Г. П. У., ані камуністам, не паехаў да Расеі, але па сяньняшні дзень знаходзіцца ў Бэрліне.

Здаецца, чаго яшчэ трэба, ўсё зроблена, каб выясьніць справу. Для людзей добрае волі гэтага ўжо даволі, каб ня верыць беспадстаўным выдумкам, але для людзей злой волі яшчэ чагосьці не хапае. Да такіх людзей злой волі належаць грамадзяне з рэдакцыі варшаўскага „Слова." Хоць ім калы на галаве чашы яны—ўсё сваё. Ня раз мне здаралася бачыць, як сварацца на вёсцы заўзятыя дурныя бабы. Крычаць, адна аднае ня слухае, кажная толькі сваё цьвердзіць. Да такой сварлівай бабы справядліва можна прыраўняць аўтора артыкулу аб сьвяшчэньніку Дэйбнэру („Слово" № 33).

Браты нязлучаныя праваслаўныя, стрымлівайце хаця трошкі праявы свае злосьці, бо запраўды гэта злосьць так туманіць вам галовы, што даходзіце да сьмешнасьці. Усе з вас сьмяюцца, а вы думаеце, што вашым выдумкам нехта верыць.

*Злучэнец.*

---

# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Юбілей 10-годзьдзя „Багаслоўскага Навуковага Таварыства" у Львове.** У гэтым годзе спаўняецца 10 гадоў ад дня залажэньня украінскага Багаслоўскага Таварыства у Львове. Рада Таварыства ў адозьве сваёй да духавенства і украінскага грамадзянства, выпушчанай з гэтае прычыны, заклікае да стварэньня заўсёднага выдавецкага фонду, падаючы пры гэтым да агульнага ведама статыстыку дасягненых рэзультатаў за час 10-цьгадовай працы. Таварыства складаецца з даволі значнага ліку звычайных сяброў, а таксама з 31 праўдзейнага сябра, з якіх 3 прафэсары загранічных унівэрсытэтаў, што сваею навуковаю працаю памаглі

разьвіцьцю Т-ва. Таварыствам выдана 10 гадавікоў навуковай часопісі „Богословія“ па 300 стар. кожны. У гэтых гадавікох агулам зьмешчана 85 навуковых трактатаў і артыкулаў, з якіх каля 50 на тэмы з гісторыі Уніі або па пытаньнях, што беспасярэдня адносяцца да грэка-каталіцкае Царквы. Апрача таго Таварыствам выдана 13 томаў з сэрыі „Выданьні Багасловіі“ і 5 томаў з сэрыі „Працы Багаслоўскага Навуковага Таварыства.“ Гэта працы сяброў таварыства — прафэсароў Львоўскае Тэолёгічнае Акадэміі. Багаслоўскае Навуковае Т-ва у Львове сабрала бібліятэку, якая цяпер налічвае больш як 10.000 томаў.

Старшынёю Таварыства ад 1926 году а. д-р Язэп Сліпый, рэктар грэка-каталіцкае Тэолёгічнае Акадэміі у Львове. (КАП).

**Варшава. Справа прывілеяў праваслаўнае Царквы.** Як мы даведаліся, цяпер у Міністэрстве Справядлівасьці разглядаецца справа спэцыяльных прывілеяў, на якія заўсёды ссылаецца праваслаўная Царква ў Польшчы, асабліва праваслаўныя суды пры даваньні разводаў каталіцкім парам. Суды гэтыя ўвесь час апіраюцца на даўнейшых царскіх правілах, што праваслаўная Царква ёсьць пануючая („господствуюшчая“) ў дзяржаве, ігноруючы пастановы Конституцыі і выясьненьні Найвышэйшага Суда. Характарна, што прыгавары гэтых судоў выносяцца „імем Польскае Рэспублікі.“

Запраўды ўжо пара скончыць з анахронізмам сумнае памяці, які пакінула пасьля сябе ў Польшчы „пануючая“ праваслаўная Царква. (КАП).

**Дубно.** Да Усходняе Папскае Сэмінарыі ў Дубне прыехаў на нейкі час падвучыцца ўсходня-славянскага абраду а. Лапішанскі Облат з Кодня, і таксама ўступіў да Сэмінарыі Бр. Анёл Капуцын, каб падгатовіцца на дыякана.

**Выбары Прэзыдэнта Польскае Дзяржавы.** 8 траўня с. г. адбыліся выбары Прэзыдэнта Польскае Дзяржавы, якім выбраны дасюлешні Прэзыдэнт праф. Ігнат Масьціцкі.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Вялікі Чацьвер у Ватыкане. Папэн і Дольфус на папскай Літургіі.** Аднаўляючы даўнейшыя традыцыі Сьв. Айцец у абкружэньні 19 кардыналаў, шмат якіх япіскапаў і пралатаў браў удзел у службе Божай 13 красавіка с. г. у Сыкстынскай Капліцы. Літургію адправіў кардынал-дзекан Граніто Пігнатэльлі ді-Бэльмонтэ. Пасьля Сьв. Літургіі сьв. Айцец працэсыяльна перанёс Сьв. Тайны ў Паўлінскую капліцу. Бальдахін над Папаю нясьлі 8 япіскапаў, а сярод іх япіскап Слоскан. Перад цэрэмоніяй у Сыкстынскай капліцы Папа адслужыў Сьв. Літургію ў сваёй прыватнай капліцы

і даў Сьв. Прычасьцэ свайму найбліжэйшаму абкружэньню, а таксама аўстрыйскаму канцлеру Дольфусу і нямецкаму віцэ-канцлеру фон-Папэну. (КАП).

**Аб злучэньні коптыйскае праваслаўнае Царквы з Рымам.** Корэспондэнты італьянскіх газэтаў паведамляюць з Эгіпту, што сярод кіраўнічых сфэраў коптыйскага праваслаўя заўважваюцца што раз дык выразьнейшыя імкненьні да злучэньня коптыйскае Царквы з Рымам. У часе візыту караля і каралевы італьянскіх у Каіры коптыйскі мітрапаліт як быццам выступіў з некаторымі заявамі перад каралём і даў яму пэўныя абяцаньні ў гэтай справе. (КАП).

**Бэрлін. Роспуск сэкты дасьледчыкаў сьв. Пісьма.** Баварскія ўлады забаранілі дзейнасьць саюзу міжнародных дасьледчыкаў Сьв. Пісьма („паважных біблійных дасьледчыкаў"). Устаноўлена, што гэта арганізацыя, пад відам хрысьціянства, падтрымлівала дэструкцыйную работу камуністаў. (КАП).

**Нэаполь. Цуд Сьв. Януарыя.** У часе адведаньня $2^1/_2$ тысячамі францускіх пілігрымаў капліцы сьв. Януарыя ў Нэаполі, калі кардынал Аскалезі адпраўляў Сьв. Літургію, паўтарыўся цуд кіпеньня крыві сьв. Януарыя. Здарэньне гэтае выклікала вялікае ўзварушэньне, бо — як ведама — цуд гэты звычайна здараецца толькі 2 разы ў год: каля 19 верасьня, г. зн. у дзень урачыстасьці сьв. Януарыя і каля 8 траўня — у ўгодкі перанясеньня цела гэтага сьвятога. Цяперашні цуд усюды зьвязваюць з абвешчаньнем Юбілейнага Году. (КАП).

**Рым. Пехатою з Кітаю на адкрыцьцё Сьвятога Году.** На адкрыцьці Сьвятога Году ў базыліцы сьв. Пётры быў, паміж іншымі, кітайскі каталік Язэп-Людвік Вэі, які пехатою прыйшоў з Кітаю ў Рым для злажэньня пашаны Папе і адведаньня Вечнага Гораду. Пілігрым гэты выйшаў з мясцовасьці Пэнанг 16 студня 1931 году. (КАП).

**Сыбір. Сумны выпадак.** Вельмі прыкра, калі, па прычыне адсутнасьці сьвяшчэньніка, хрысьціяне хаваюць сваіх дарагіх асоб самі без сьвяшчэньніка. Такія сумныя выпадкі здараюцца цяпер часта ў Савецкай Расеі. Яшчэ больш сумна бывае, калі паховіны памёршага сьвяшчэньніка прыхаджанамі адбываюцца, без сьвяшчэньніка і гэта, хаця рэдка, але здараецца. На пачатку гэтага году нячуваны і вельмі сумны здарыўся выпадак у Сыбіры, недалёка ад Уладывастоку. Памёр там каталіцкі япіскап Карла Сьліваўскі, ня было ані аднаго сьвяшчэньніка пахаваць нябожчыка, усе былі арыштованыя бальшавіцкаю ўладаю і вывезеныя. Запраўды, вельмі сумны выпадак і ніколі нячуваны, каб каталіцкі япіскап у сваёй епархіі быў пахованы без сьвяшчэньніка.

# Календар

на м—ц Травень 1933 г.

**Стары стыль.** **Новы стыль.**

| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Н | **Ярэмія** | 14 | N | **Bonifacaha** |
| 2 | П | Марка св. | 15 | P | Jana. Zofji |
| 3 | А | Хвядоса | 16 | A | Andreja B. |
| 4 | С | Палагеі | 17 | S | Paschalisa |
| 5 | Ч | Ірэны | 18 | Č | Eryka. Feliksa |
| 6 | П | Іова | 19 | P | Celestyna |
| 7 | С | Знах. Кр. у Ерус. | 20 | S | Bernarda |
| 8 | Н | **Івана Багаслова** | 21 | N | **Wiktara** |
| 9 | П | Мікалая | 22 | P | Julii. Kryž. dz. |
| 10 | А | Сымона ап. | 23 | A | Dezyderyja. Kryž. dz. |
| 11 | С | Мокія. | 24 | S | Ioanny m. Kryž. dz. |
| 12 | Ч | **Апіфана. Ушэсьце** | 25 | Č | **Ušeście. Hryhora** |
| 13 | П | Глікерыі | 26 | P | Pilipa H. |
| 14 | С | Ізыдара | 27 | S | Bedy üd. |
| 15 | Н | **Пахома Вял.** | 28 | N | **Aŭhustyna bisk.** |
| 16 | П | Тодара | 29 | P | Maryi M. |
| 17 | А | Андроніка | 30 | A | Feliksa pap. |
| 18 | С | Хвядота | 13 | S | Anieli i Piatruneli |
| | | | | | ČERWIEŃ |
| 19 | Ч | Патрыка | 1 | Č | Jakuda |
| 20 | П | Фалалея | 2 | P | Sadoka i Taw. |
| 21 | С | Канстáнтына. | 3 | S | N. Serca Jezusa |
| 22 | Н | **Сёмуха** | 4 | N | **Siomucha Zas. S D.** |
| 23 | П | **2 дз. Сёмухі** | 5 | P | **2 dz. Siomuchi** |
| 24 | А | Сымона прп. | 6 | A | Norberta |
| 25 | С | Знаход. гал. Яна Хр. | 7 | S | Roberta. Suchi dz. |
| 26 | Ч | Карпа Ап. | 8 | Č | Medarta |
| 27 | П | Кірыла. Аляксандра | 9 | P | Felicyjana. Suchi dz. |
| 28 | С | Мікіты пр. | 10 | S | Bohumiła. Suchi dz. |
| 29 | Н | **Хвядосі м.** | 11 | N | **Barnaby ap.** |
| 30 | П | Усіх Сьвятых | 12 | P | Jana Fak. |
| 31 | А | Ярэмы. | 13 | A | Antona z Padwy. |

Рэдактар: а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.